

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1995 ЛЮТЫ 2 ЧАЦВЕР

№ 20/ 948

Цана 100 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ИТОГИ ПОДВЕДЕТ СПИКЕР

3 февраля в вечернем эфире Белорусского телевидения состоится выступление председателя Президиума Верховного Совета Республики Беларусь Мечеслава Гриба.

Оно станет своего рода подведением итогов работы сессии парламента на текущей неделе: спикер подробно расскажет о принятых законах и постановлениях и оценит их значимость. Предполагается, что М.Гриб также коснется некоторых проблем, возникших в последнее время во взаимоотношениях законодательной и исполнительной властей, и выскажет свое мнение по поводу общественно-политического «здоровья» страны.

### БЕЛАРУСЬ — ЛАТВИЯ: КРЕПНЕТ СВЯЗЬ

31 января в Минске прошла встреча правительственных делегаций Латвии и Беларуси по вопросам международного автомобильного сообщения, деятельности в области железнодорожного транспорта, воздушного сообщения, белорусского транзита через латвийские морские порты, сотрудничества в области связи и транспортного машиностроения.

По итогам встречи подписаны договоры о международных автомобильных сообщениях, а также парафированы договора о железнодорожном транспорте, воздушных сообщениях и связи.

### З КАМСАМОЛАМ НЕ РАЗВІТВАЮЦЦА!

4 лютага ў будынку ЦК СМБ адбудзецца ўрачысты сход з нагоды трэціх угодкаў адраджэння беларускага камсамола. На яго запрошаны дэлегацыі з Расіі, Украіны, а таксама госці з далёкага замежжа.

Плануецца, што па традыцыі з прывітальным словам да «надзейнага памочніка і баявога рэзерву» звернецца першы сакратар ЦК ПКБ С.Калякін.

На сходзе таксама абяцаецца ўручэнне прэмій Ленінскага камсамола за 1991-94 гады.

Жывём па старых звычаях?

### МІЛІЦЫЯ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

**30 студзеня адбылося пашыранае пасяджэнне калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі па выніках мінулага года, у якім удзельнічалі прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, генеральны пракурор Васіль Шаладонаў, прадстаўнікі сілавых структураў.**

Адбылася зацікаўленая і шчырая гутарка аб стане злачыннасці ў краіне. Прэзідэнт краіны адзначыў, што ў хуткім часе ўбачыць свет яго ўказ, у якім будзе прапанаваны шэраг першачарговых мераў па выкараненню на Беларусі эканамічнай злачыннасці. Ён паабяцаў органам Міністэрства ўнутраных спраў і КДБ самую шырокую і шчодрую падтрымку.

Цікава, што выніковым дакументам, прынятым на калегіі, стаўся зварот да грамадзянаў Беларусі.

У звароце адзначаецца, што з кожным днём расце арганізаванасць, агрэсіўнасць, жорсткасць і ўзброенасць злачынцаў. І калі МУС, грамадства спасуюць, зоймуць абарончыя пазіцыі, краіна проста не будзе мець будучыні.

Міліцыя змагаецца з апошніх сілаў: за мінулы год 17 яе супрацоўнікаў загінулі, 46 былі паранены. Людзі ў форме падышлі да мяжы, за якой заканчваюцца фізічныя і псіхалагічныя рэзервы.

Калегія звярнулася за дапамогай да ўсіх слаёў грамадства — да прадпрымальнікаў і моладзі, да прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і палітычных партый, да ветэранаў і дзеячаў мастацтва.

«Асабовы састаў органаў і падраздзяленняў унутраных спраў, разумеючы найвышэйшую адказнасць, ускладзеную на яго, будзе і надалей рашуча, цвёрда, прынцыпова выконваць Закон і абараняць найвышэйшую каштоўнасць грамадства і дзяржавы — Чалавека», — падкрэсліваецца ў заяве.

### ХОЦЬ МАФІЯ І БЕССМЯРОТНАЯ, АЛЕ РАЗАМ ПАСПРАБУЕМ СПРАВІЦЦА

Учора ў Мінск прыбыла дэлегацыя прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў ЗША, якія звязаны з праваахоўнай дзейнасцю. Кіраўнік делегацыі, спецыяльны дарадца галоўнага каардынатара па СНД у Дзярждэпартаменце спадар Джэймс Стайнер сустрэнецца з прадстаўнікамі Міністэрства замежных спраў Беларусі, Вярхоўнага Савета і праваахоўных ведамстваў. Падчас перамоў будуць абмеркаваны шляхі супрацоўніцтва ўрада ЗША з Беларуссю ў справе барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, фінансавымі правапарушэннямі і гандлем наркотыкамі.

Мэта візіту, як падкрэсліваецца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным пасольствам ЗША ў Беларусі, — вызначэнне найбольш эфектыўных праграм падрыхтоўкі кадраў, а таксама выбар відаў тэхнічнай дапамогі нашай краіне ў яе намаганнях па барацьбе са злачыннасцю.

З аналагічнай місіяй прадстаўнікі ЗША наведвалі ў мінулым годзе Маскву, а дэлегацыя Д.Стайнера прадоўжыць сваю рабочую праграму візітам у Кіеў.

### ☐ В МИНГОРИСПОЛКОМЕ

Под председательством мэра г.Минска В.Ермошина состоялось совещание по вопросам предстоящих выборов парламента. Рассмотрены основные положения Закона «О выборах депутатов Верховного Совета Республики Беларусь». Обсуждены организационно-технические мероприятия по их проведению. Для оперативного решения организационных вопросов предполагается создание рабочей группы.

Участники совещания обменялись мнениями, получили ответы на интересующие вопросы.

В работе совещания приняли участие председатель Центральной избирательной комиссии А.Абрамович, секретарь комиссии И.Лихач.

**Пресс–центр Мингорсовета.**

### БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, ЯК БУДУЦЬ ГРОШЫ

Яшчэ некалькі тыдняў назад у Мінску выстройваліся вялізныя чэргі за прадуктамі харчавання. Асабліва за смятанай. Зразумела — яе пакетамі вывозілі за межы нашай краіны. Цяпер, пасля чарговага павышэння цэнаў, гэтыя чэргі зніклі. Калі раней смятана каштавала 6490 рублёў за кілаграм, то зараз цана ўзрасла да 9430 рублёў. Такім чынам, попыт на гэты тавар значна зменшыўся. Учора смятана свабодна прадавалася ўсюды — у прыватнасці, яна была ва універсамах «Рыга», «Нарач», «Заходні», «Гродна», «Талін». Справа тут вось у чым: у звычайнага чалавека на набыццё яе проста не хапае грошай.

Як адзначыла Т.М.Латушкіна, дырэктар універсама «Нарач», не толькі смятану, але і малако ў апошні час не раскупліваюць.

— Раней за дзень мы прадавалі сто трыццаць скрынак малака, цяпер усяго сто, — адказала яна.

**Аляксандр ГУРЫНОВІЧ.**

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 2 февраля 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| КОМПЛЕКС (за рос. рубли) | 10890* --- | 11300 --- | 7227* --- | 7515 --- | 2.61 --- | 2.71 --- |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11000* | 11500 | 7315* | 7650 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11680 11700** | 12120* | 7570* | --- | 2.76* | 3.09* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11100* | 11550* | 7200* | 7650* | 2.6 | 2.8 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11100* | 11500 | 7270* | 7560 | 2.5 | 2.75 |
| ПРИОРБАНК | 11100 11500** | 11500 | 7380 7650** | 7650 | 2.3 | 2.85 |
| ПРОФБАНК | 11250 11450** | 11650 11750** | 7400 7500** | 7700 7750** | 2.65 2.75** | 3 3.1** |
| СБЕРБАНК | 11200 | 11550 | 7150 | 7450 | 2.4 | 2.7 |
| ОЛИМП | 11250 11306** | 11620 11713** | 7407* 7444** | 7728 7790** | 2.5 2.51** | 2.73 2.8** |
| ДУКАТ | 11200* | 11600 | 7300* | 7600 | 2.5 | --- |
| финансовая компания СОЛИД | 11100 | 11450 | 7300 | 7600 | 2.5 | 2.7 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11100* | 11600* | 7200 | 7550 | 2.2 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11100 | 11600 | 7050 | 7600 | --- | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11200 | 11600 | 7350 | 7550 | 2.5 | 2.8 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11000 | 11450 | 7350 | 7600 | 2.65 | 3 |
| ПОИСК | 11350 | 11700 | 7100 | 7600 | 2.6 | 2.75 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11200 11256** | 11500 | 7200 7236** | 7600 | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11150 11550** | 11500 11800** | 7200 7400** | 7400 7500** | 2.6 2.7* | 2.7 2.8** |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 11100 11550** | 11500 11700** | 7200 7400** | 7700 7730** | 2.4 2.5** | 2.7 2.8** |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11300 | 11600 | 7300 | 7550 | 2.6 | 2.8 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11100 | 11600 | 7100 | 7600 | 2.2 | 2.8 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 10600* | 11600* | 7200* | 7450* | 2.5 | 2.7* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 11300 4000 | 11500 4300 | 7200 | 7700 | 2.6 | 3 |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

** -- операция проводится только по безналичному расчету

**В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.**

■ **Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".**

| | Доллар США | Немецкая марка | Российский рубль |
|---|---|---|---|
| ЦЕНТРОБАНК РОССИИ | 4048 | 2693.28 | 10 BRB 3.65 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 11670.00 | 7761.37 | 2.8 |

## АКТУАЛЬНО

### МВФ ОДОБРИЛ БЕЛОРУССКИЕ РЕФОРМЫ

Как сообщил сотрудник Управления общественно-политической информации Администрации президента Республики Беларусь Игорь Гуковский, Совет директоров Международного валютного фонда на своем последнем заседании единогласно одобрил программу экономических реформ в Республике Беларусь на 1995 год.

Это решение означает не только признание авторитетной международной организацией правильности курса осуществляемых в стране экономических преобразований, но и выделение соответствующих финансовых средств. По оценкам белорусского правительства, всего в 1995 году планируется получение 700 млн. долларов различных видов кредитов. 350 млн. долларов поступит в Беларусь по линии МВФ, из них 100 миллионов будет выделено уже в самое ближайшее время.

**Олег БОГДАНОВ, РИД.**

## МІРАТВОРЧАСЦЬ

### НОБЕЛЕЎСКІЯ ЛАЎРЭАТЫ СУПРАЦЬ ВОЙНАЎ І ГВАЛТУ

Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, якія прынялі ўдзел у святкаванні 50-годдзя вызвалення канцэнтрацыйнага лагера Аўшвіц-Біркенаў у Асвенцыме, прынялі «Зварот да народаў свету».

«Мы сустрэліся, каб успомніць аб самым вялікім гістарычным злачынстве, — гаворыцца ў звароце. — Тут, на польскай зямлі, нямецкія нацысты стварылі сетку лагераў, сярод якіх Аўшвіц-Біркенаў стаў сімвалам зла і варварства не толькі XX стагоддзя».

Злачынствы генацыду не могуць быць забыты, лічаць удзельнікі сустрэчы. Яны павінны быць справядліва асуджаны, стаць перасцярогай для сучасных і будучых пакаленняў.

У сваім звароце Нобелеўскія лаўрэаты заклікалі народы свету супрацьстаяць фанатызму, гвалту, вайне і забойствам.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## КАНВЕРСІЯ

### ПА ПРАГРАМЕ НАННА-ЛУГАРА

**Галіна ГАЛАВАТАЯ.**

23 і 24 студзеня ў Мінску знаходзілася дэлегацыя прадстаўнікоў Міністэрства абароны ЗША. Высокапастаўленыя асобы прыязджалі да нас, каб абмеркаваць разам з работнікамі міністэрстваў абароны, замежных спраў, знешніх эканамічных сувязяў і аховы навакольнага асяроддзя выкананне праграмы Нанна-Лугара.

Гэтая праграма, прынятая Кангрэсам ЗША ў 1991 годзе, прадугледжвае фінансавую і тэхнічную дапамогу амерыканцамі Беларусі, Расіі, Украіне і Казахстану ў дэмантажы ядзерных узбраенняў, канверсіі прадпрыемстваў абароннай прамысловасці і ліквідацыі экалагічных наступстваў ад дзейнасці ваенных аб'ектаў.

Дэлегацыю ў Беларусі ўзначальвала доктар Глорыя Даффі — намеснік памочніка міністра абароны ЗША і спецыяльны каардынатар праграмы сумеснага зніжэння пагрозы. На сустрэчы з журналістамі, арганізаванай пасольствам ЗША ў Беларусі, прадстаўнікі беларускага і амерыканскага бакоў адказалі на шматлікія пытанні. Асаблівая ўвага надавалася сумесным праграмам перападрыхтоўкі былых ваеннаслужачых, будаўніцтву жылля для іх. І рэалізаваць гэтыя праграмы ёсць рэальныя магчымасці. Напрыклад, ужо зараз можна атрымаць ад ЗША 5 мільёнаў долараў — на працаўладкаванне вучоных, што раней займаліся навуковай работай у ваеннай вобласці, а зараз апынуліся на вуліцы.

## ГРАФІК

*прыёму грамадзян старшынямі пастаянных дэпутацкіх камісій Мінскага гарадскогаСавета народных дэпутатаў у лютым 1995 г.*

**Прыём адбываецца ўМінгарсавеце па адрасу: пр-т Ф.Скарыны, 8, пакой № 108.**

| Прозвішча, Імя, Імя па бацьку старшыні камісіі | Назва камісіі | Дата | час прыёму |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| ТАРЧЭЎСКІ Мікалай Мікалаевіч | мандатная камісія | 02.02.95 | 10.00-13.00 |
| КАЛЯДКА Аляксандр Васільевіч | па пытаннях работы Саветаў і развіццю самакіравання | 02.02.95 | 15.00-18.00 |
| ХАРЛАП Андрэй Уладзіміравіч | па ахове правапарадку і пытаннях барацьбы са злачынствам | 22.02.95 | 10.00-13.00 |
| АНДРЫЯНАВА Вера Дзмітрыеўна | па навуцы, навукова-тэхнічнаму прагрэсу і інфарматыцы | 27.02.95 | 10.00-13.00 |
| КАРАГІН Уладзімір Мікалаевіч | па эканамічнаму развіццю і бюджэту | 08.02.95 | 15.00-18.00 |
| МАЗГО Алег Паўлавіч | па горадабудаўніцтву, дойлідству і будаўнічаму комплексу | 07.02.95 | 10.00-13.00 |
| БАГАМОЛЬСКІ Аляксей Ягоравіч | па жыллёвай палітыцы, камунальнай гаспадарцы і дабраўпарадкаванню | 22.02.95 | 15.00-18.00 |
| ЛАПУНІН Альберт Паўлавіч | па энергетыцы, транспарту, дарожнай гаспадарцы і сувязі | 09.02.95 | 10.00-13.00 |
| ФРЫДЛЯНД Міхаіл Яўсеевіч | па экалогіі | 21.03.95 | 10.00-13.00 |
| МАРОЗАЎ Валянцін Іванавіч | па фізічнай культуры, масаваму спорту і турызму | 27.02.95 | 15.00-18.00 |
| ЧЫЛЕК Тадэвуш Аляксандравіч | па спажывецкаму рынку (гандаль, грамадскае харчаванне, бытавое абслугоўванне) | 23.02.95 | 10.00-13.00 |
| ЧАРНЯЎСКІ Ігар Мяфодзьевіч | па культуры і захаванню гісторыка-культурнай спадчыны | 16.02.95 | 15.00-18.00 |
| КУЗЬМІЧ Вольга Аляксандраўна | па выхаванню і адукацыі | 20.02.95 | 10.00-13.00 |
| МУХТАСАРАЎ Рым Рыгоравіч | па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва | 28.02.95 | 10.00-13.00 |
| ЯЦКЕВІЧ Валерый Мікалаевіч | па справах моладзі | 09.02.95 | 10.00-13.00 |

Заўвага: у выпадку адсутнасці старшыні камісіі прыём вядзе яго намеснік; прыём вядзецца па праблемах, якія датычацца кампетэнцыі дадзенай камісіі; прыём вядзецца на основе папярэдняга запісу. У спіс уключаецца не больш за 20 чалавек.

Тэл. 27-09-18, тэлефанаваць з 10.00 да 12.00 і з 15.00 да 17.00.



## ДЗЕЛАВЫ МІНСК

### ГАЛОЎНЫ ВЫНІК — НОВЫЯ КАНТАКТЫ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**



Фота Уладзіслава ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.

**У выставачным комплексе «Мінскэкспа» (пр–т Машэрава, 14) працягвае сваю работу міжнародная выстава «Абутак–адзенне–тэкстыль–95».**

Больш за 80 фірм і кампаній з Германіі, Расіі, Польшчы, Чэхіі, Паўднёвай Карэі, краін Балтыі прадставілі разнастайную і даволі цікавую экспазіцыю. У ёй — як гатовыя вырабы лёгкай прамысловасці, так і разнастайнае абсталяванне (тэкстыльныя машыны і прылады да іх, швейныя, вязальныя машыны, абсталяванне ткацкай вытворчасці), тканіны (баваўняныя, шарсцяныя, шаўковыя і са штучных валокнаў), нарыхтоўкі для вытворчасці абутку.

Звяртаюць увагу вялікая колькасць трыкатажных вырабаў, гатовага адзення і тое, што вельмі мала на стэндах абутку.

Айчынная лёгкая прамысловасць не мае значных цяжкасцей з набыццём сыравіны. Практычна ўсё і выдатнай якасці можна набыць на сусветным рынку. Але, вядома, за валюту і па сусветных цэнах. Куды больш цяжкасцей з рэалізацыяй гатовых вырабаў, з тэхнічным перааснашчэннем прадпрыемстваў.

Арганізатары спадзяюцца, што наведвальнікі і ўдзельнікі выставы не толькі азнаёмяцца з апошнімі дасягненнямі тэкстыльнай прамысловасці, але і набудуць новае абсталяванне, падпішуць выгадныя кантракты, знойдуць шляхі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, надзейных партнёраў.

### К СВЕДЕНИЮ ПАССАЖИРОВ!

В связи с производством работ по ремонту водопровода по ул.Пономаренко на участке от пр.Жукова до ул.Бельского с 19.00 4.02.95 г. до 6.00 5.02.95 г. изменяется движение общественного транспорта:

— автобусный № 114 — следует по пр.Жукова, улицам Одоевского, Бельского в обоих направлениях;

— троллейбусные: № 9 — следует по улицам Одинцова, Тимошенко, Притыцкого, Кальварийской и далее по маршруту в обоих направлениях; № 57 следует по ул.Одоевского, пр.Пушкина, ул.Кальварийской и далее по маршруту;

№ 38 — следует со стороны д/с Славинского по пр.Пушкина, ул.Одоевского до д/с Одоевского;

№ 10 — следует со стороны Веснянки и до д/с Одоевского, со стороны ул.Семашко до ул.Бельского;

№ 39 — следует по пр.Жукова, пр.Дзержинского и далее по маршруту.

**Управление транспорта и связи Мингорисполкома.**

## ЗДАРЭННІ

### СЕРАБРАНКА-9: І БЕЗ ВАДЫ, І БЕЗ СВЯТЛА

**Максім ПЛЕВІЧ, «ДВ».**

**Два дні жыхары мікрараёна Серабранка–9 жылі без электраэнергіі. Не гарэў у кватэрах свет, не працавалі ліфты, не грэлі электрычныя пліты. Некаторым небаракам зусім не пашанцавала: давялося начаваць у ліфтах. А ўчора зранку ў кватэрах пакутнікаў адключылі нават і ваду.**

Дыспетчар Цэнтральнай дыспетчарскай службы гарвыканкама Антаніна Грыцкова адзначыла, што адключэнне электраэнергіі было выклікана разрывам кабелю, праз які падавалася напружанне ў 15 кілавольт. На аварыю былі кінуты ўсе наяўныя сілы, часткова яна была ліквідавана, і да ўчарашняй раніцы без святла заставаліся толькі тры дамы.

Начальнік дыспетчарскай службы першага сеткавага раёна Казімір Ярмольчык адказаў, што ўчора зранку месца пашкоджання было знойдзена, кабель адкапаны і спецыяльная брыгада прыступіла да яго рамонту. Да вечара, паабяцаў Казімір Іосіфавіч, электрычнасць у дамах мікрараёна будзе. На пытанне аб прычынах аварыі спадар Ярмольчык растлумачыў: «Прычыны пакуль невядомыя. Магчыма, вінавата слабая ізаляцыя сілавога кабелю».

А вада, як высветлілася, адсутнічала з-за планавага рамонту перапампоўвачнага насоса. Да 17.00 1 лютага водаправодныя краны ў кватэрах Серабранкі-9 павінны «ажыць».

Вечарам электрычнасць і вада ў раёне, сапраўды, з'явіліся.

